Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 19 | Нядзеля, 27-га Чэрвеня 1926 г. м. Вільня | Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень | Цана нумару 20 грош.

Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыто... культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці ... ацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая ... одняй Беларусі да Заходняй.

Падпісн... Зап... ...ражэй. | „Sokołowski" | ...цыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel ...акцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. ...штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам— 20 гр.
„ сярод тэксту — 25 гр.
„ на апош. стар. — 10 гр.
За радок нонпарэля.



# ВІТАЕМ!

27 чэрвеня ў Вільні зьбяруцца прадстаўнікі беларускай вёскі, каб сказаць слова аб сваім горыбядзе, вызначыць шлях далейшага змаганьня за лепшую долю і выбраць спаміж сябе людзей у склад новага беларускага палітычнага органа, які будзе новым правамоцным прадстаўніцтвам сялянства Заходняй Беларусі,

Гэта важны гістарычны мамэнт у жыцьці нашага края. Мамэнт, які можа зьвярнуць беларускую справу ў Заходняй Беларусі на новы шлях, мамэнт які можа даць нам новыя магчымасьці каваць сабе лепшую долю.

І мы, вітаючы прыбыўшых у Вільню на зьезд прадстаўнікоў нашае вёскі, хочам высказаць тут рад думак, якія цяпер ціснуцца ў галаву.

Бязумоўна важным мамэнтам у жыцьці Заходняй Беларусі быў 1922 год, калі былі вызначаны першыя выбары ў Сойм. Тады змабілізаваліся дружна ўсе актыўныя беларускія сілы, каб правесьці хаця колькі сваіх паслоў-беларусаў, якія з соймавае трыбуны заявілі-бы ўсяму сьвету аб долі гаротнай Беларусі і якія ўвайшоўшы ў найвышэйшы дзяржаўны орган—польскі Сойм, стараліся-б здабыць для свайго народа максімум прадбачаных Констытуцыяй нацыянальных свабод.

І калі народ выказаў сваю вялікую арганізованнасьць, нягледзячы на сільную агітацыю варожых для беларускае справы партыяў, якія праз сваіх платных агэнтаў стараліся разьбіць беларускі фронт,—рэзультат выбараў быў гэткі ўдачны, якога не прадбачылі нават тагачасныя павадыры беларускага руху, стаяўшыя на чале прадвыбарнай кампаніі. Апрача маленькага ліку пасольскіх мандатаў, якія ўдалося здабыць беларускімі галасамі левым польскім партыям, усе іншыя галасы беларускага сялянства палі на выстаўлены беларусамі ў хаўрусе з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі сьпісак № 16.

Ня гледзячы на гэткі няспадзявана ўдачны рэзультат выбараў, беларусы не патрапілі з яго скарыстаць. Апрача невялічкага ліку сапраўдных старых беларускіх дзеячоў, у сьпісках кандыдатаў былі людзі або з няведамай падазроннай мінуўшчынай, або людзі з *надта ведамай* мінуўшчынай, як быўшыя істінно-русскія, або людзі выбітыя з нармальнай жыцьцёвай каляіны. Ведама, ад гэтых прымазаўшыхся да беларускага руху людзей, якія дагэтуль мала цікавіліся беларускім рухам, а цяпер зрабіліся народнымі трыбунамі і сувэрэнамі, беларускі народ мала меў карысьці. Няздольныя да творчай працы, няздольныя да разумнай палітыкі, стаяўшыя заўсёды толькі ў опозыцыі, яны не патрапілі здабыць для свайго народа нічога рэальнага, а для сябе—шмат хто з іх пасьпеў ўжо за пасольскія дыэты здабыць ў працягу чатырох гадоў „працы" нешта „рэальнае"...

Ня будзем тут казаць, чыя ў гэтым віна, што народ ашукаўся. Годзі аб мінуўшчыне! Жыцьцё няўстрыманай рэчкай рвецца наперад і прымушае думаць аб будучыне.

Набліжаецца канец безслаўнага Сойма, а з ім і дасюляшняга беларускага прадстаўніцтва. Новыя выбары—не за гарамі! Трэба ўжо аб іх падумаць, трэба арганізавацца, трэба ўтварыць свой палітычны орган, які цяпер бараніў-бы правоў да нацыянальнага жыцьця беларускага народа, а ў адпаведны мамэнт узяў у свае рукі падгатоўку да новых выбараў у Сойм.

Вось гэты даўно чаканы орган цяпер паўстае. Трэба, каб зьявіўшыяся на зьезд прадстаўнікі ад народа разумна, разважна кінулі свае галасы, каб ізноў не апынуцца... у разьбітага карыта, выбраўшы, замест чэсных беларускіх прадстаўнікоў, палітычных спэкулянтаў. Вітаючы сабраўшыхся на зьезд, мы жадаем ім таго здаровага сьветлага розуму, пры якім абмылкі немагчымы.

Дык хай жыве новае народнае прадстаўніцтва! Хай жыве беларускі Народ, многапакутны, гаротны, шмат разоў ашуканы, але не страціўшы веры ў чыстасьць сваей справы і змагаўшыйся за яе да апошніх сіл!

# ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

22 чэрвеня адчынілася першае паседжаньне Сойма пасьля маёвага пераварота. Гэтай соймавай сэсіі прыдаюць вялізнае значэньне, калі прыняць пад увагу, што галоўнай прычынай маёвага пераварота быў сам Сойм, які паступова дайшоў да гэткага стану, што ня мог утварыць сільнага працаздольнага ўраду і ня мог сябе распусьціць. Ня можа жыць і ня можа ўмерці. Дзеля гэтага пасьля маёвага пераварота ўсе былі пераконаны, што наагул гэтаму Сойму прыйшоў канец. Што проста ён будзе разагнаны, як зусім няздольны да сваей ролі. Але дзеля таго, што маршалак Пілсудскі пасьля адстаўкі кабінэта Вітаса і адмовы ад улады Прэзыдэнта Вайцехоўскага заявіў, што ўваходзіць на легальны шлях, дык хочучы-няхочучы прыйшлося ізноў лічыцца з гэтым Соймам і Сэнатам.

Першым актам легалізацыі маёвага пераварота былі выбары новага Прэзыдэнта Рэспублікі Нацыянальным Зборам, складаўшымся з Сойма і Сэната. Перад самымі выбарамі маршалак Пілсудскі паклікаў да сябе прадстаўнікоў соймавых партыяў і параіў ім як паступаць на будучых выбарах прэзыдэнта. Маршалак у кароткіх, але сільных словах ахарактэрызаваў цяперашні нічога ня варты Сойм і заявіў, што мог-бы яго зусім не склікаць; што аднак не хацеўбы паслугоўвацца пугай (bat), але... калі толькі нацыянальны Збор не выбярэ чалавека, які заслугоўвае на даверые маршалка, дык „бачыць будучыню Сойма ў чорных калёрах, а сябе ў непрыемным палажэньні, дзеля таго што не хацеў-бы кіраваць дзяржавай пры помачы „bata". Проста—ясна пагразіў, што, калі Сойм і Сэнат не зробяць так, як ім раюць, дык прыдзецца ўхапіцца за пугу. Вось да чаго дажылі нашы законадаўчыя палаты. І гэты аргумэнт маршалка Пілсудскага прынёс вельмі добрыя рэзультаты. Сам маршалак Пілсудскі, а пасьля яго адмовы Іг. Масьціцкі быў выбраны прэзыдэнтам большасьцю прыблізна 100 галасоў. Гэткую большасьць рэдка бачыў наш Сойм. Але цяпер настрой соймавых партыяў ізноў рашуча пераменіўся.

Слабасьцяй нашай Констытуцыі зьяўляецца тое, што галава Дзяржавы ня мае права распусьціць законадаўчых палат, як гэта ёсьць амаль што не ўва ўсіх заходніх дзяржавах, і што Сойм карыстаецца надта вялікімі правамі ў той час, як выканаўчыя ўлады надта абмяжованы ў сваіх правох. І ў рэзультаце дайшло да таго, што не абмяжованы ў сваей уладзе, але бязьсільны Сойм нічога ня робіць і яго нельга распусьціць. Тэорытычна Прэзыдэнт мог-бы распусьціць Сойм на падставе прапазыцыі кабінэта, але дзеля гэтага патрэбна згода трох пятых Сэната. А такой большасьці Сэнат у цяперашнім сваім складзе ня можа даць. Праўда дзеля таго, каб утрымацца пры жыцьці, захаваць дэпутатскія дыеты Сэнат не пайшоў-бы на гэту прапазыцыю Прэзыдэнта Рэспублікі і не распусьціў-бы Сойма, дзеля таго што яму прышлося-бы распусьціць і сябе. Сойм можа распусьціць сябе і Сэнат звычайнай большасьцю галасоў. Але ён, як мы ўжо сказалі, няздольны да гэтага акта самагубства. І фактычна Сойм незьменяемы, а права Прэзыдэнта Рэспублікі распускаць Сойм на падставе Констытуцыі зьяўляецца фікцыяй. У гэтым прыйшоў на падмогу новы ўрад, які ўнёс у Сойм праэкт зьмены Констытуцыі.

Урадовыя праэкты законаў вось якія: Прэзыдэнту Рэспублікі даецца права распускаць Сойм і Сэнат, урад мае права выдаваць законы ў часе роспуска законадаўчых палатаў або іхніх канікулаў. Прэзыдэнту Рэспублікі даецца права veto на законы прынятыя Соймам і Сэнатам, ураду даецца права зацьверджаньня бюджэта, калі Сойм не пасьпее прыняць яго ў чатырох-месячную сэсію і г. п.

Гэтыя ўрадовыя праэкты законаў зьяўляюцца галоўнай тэмай спрэчак адчыніўшайся соймавай сэсіі і выклікалі як у прэсе, гэтак і ў соймавых колах цэлую буру. Найбольшы пратэст выклікалі яны з боку сацыялістаў. Пры гэтым трэба адзначыць, што адносіны сацыялістаў рашуча зьмяніліся да новага ўрада Бартэля пасьля таго, як выясьнілася, што яны ня могуць мець выключнага ўплыву на кіраваньне Дзяржавай. Змагаўшыяся разам з войскам маршалка Пілсудскага на вуліцах Варшавы проці правай рэакцыі, сацыялісты перайшлі цяпер у рашучую опозыцыю ў адносінах да яго. Ім асабліва не спадабалася заява маршалка Пілсудскага, што „маёвая рэвалюцыя абыйшлася без рэвалюцыйных рэзультатаў" у той час, як сацыялісты хацелі-бы „углыбіць" рэвалюцыю. Дзеля гэтага сацыялісты, гатовыя падтрымаць урадовую прапазыцыю датычна таго, каб даць прэзыдэнту права распускаць законадаўчыя палаты, катэгарычна выступаюць проці ўсіх іншых зьменаў Констытуцыі, скіраваных да ўзмацаваньня ўлады ўраду.

Дэп. Лібэрман (P. P. S.) заявіў прадстаўніку газэты „Kurjer Lwowski", што „P. P. S." ня можа згадзіцца з заявай Маршалка Пілсудскага, што ён зрабіў рэвалюцыю бяз рэва-

# ЗЬЕЗД ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

**адбудзецца ў нядзелю 27 чэрвеня г. г.**

ў памешканьні тэатра „Palace“ — вугал Вялікай і Нямецкай вул.

**Пачатак паседжаньня а 10 г. раніцы.**

люцыйных рэзультатаў... Наадварот, маёвая рэвалюцыя, згодна з лёгікай падзеяў, павінна даць цэлы рад рэзультатаў. Лінія павінна быць даведзена да канца. Ніякіх палітычных паўнамоцтваў урад не атрымае! Будзем галасаваць толькі за бюджэтныя і эканамічныя паўнамоцтвы, дый то кароткасрочныя, да скліканьня новага Сойма.

Цяперашні Сойм ня мае ні маральнага, ні конституцыйнага права рабіць зьмены ў нашым дзяржаўным жыцьці. Паставім усё на карту, каб толькі ўзарваць гэты Сойм і яшчэ цяпер, перад аддачай ураду паўнамоцтваў.

Гэткім чынам сацыялісты, дамагаючыся неадкладнага роспуска Сойма і Сэната і вызначэньня новых выбараў, ня будуць галасаваць за зьмену Конституцыі ў сэнсе пашырэньня ўлады ўрада. Гэткае самае становішча здаецца, займуць і іншыя левыя партыі, апрача „Wyzwolenia“, а таксама й нацыянальныя меншасьці. Што-ж датычыцца правых, дык яны гатовы прыняць урадавыя праэкты, але з умовай, што будзе прыняты і іхні праэкт аб зьмене выбарнага права, які гарантуе ім перамогу на новых выбарах.

Ен кіруецца галоўным чынам процi нацыянальных меншасьцяў і наагул дробных партыяў. Гэткім чынам проці праэкта эндэцыі і „Piasta“ будуць галасаваць усе левыя партыі і нацыянальныя меншасьці. І напэўна ён ня пройдзе дзеля таго, што, каб зрабіць зьмены ў Конституцыі патрэбны дзьве трэціх галасоў Сойма. Няма ведама, як выйдзе з гэтага палажэньня ўрад, які хоча каб Сойм цалкам легалізаваў маёвы пераварот,

## Праграма

### Зьезду Заходняй Беларусі,

які адбудзецца 27 чэрвеня г. г. у Вільні

1. Выбары Прэзыдыума.
2. Даклады з мейсц.
3. Рэфэраты:
   а) агульна-палітычны,
   б) па зямельнаму пытаньню,
   в) па школьнаму пытаньню,
   г) аб беларускім мастацтве і тэатры і
   д) па рэлігійнаму пытаньню.
4. Падзел на сэкцыі: палітычную, арганізацыйную, зямельную, школьную і рэлігійную.
5. Даклады сэкцыяў.
6. Бягучыя справы.
7. Выбары Беларускай Рады.

---

Таксама няма ведама, якое можа ўтварыцца палажэньне, калі Сойм выскажа votum недаверыя новаму ўраду, што зусім магчыма, дзеля таго што фактычна цяперашні ўрад не апіраецца ні на водную партыю. Цяпер у апазыцыі апынуліся нават тыя, якія разам з аружжам у руках змагаліся побач маршалка Пілсудскага 12—15 траўня.

N.

# ✝ УЛАДЗІМІР ОСКІЛКО.

19 чэрвеня ў Гарадку Ровенскага пав. быў агідна забіты вядомы украінскі атаман і галава Украінскай Народнай Партыі Уладзімір Оскілко.

Забойца прабраўся ў памешканьне Оскілкі праз вакно, калі той быў ужо ў ложку, і стрэлам з рэвальвэра забіў сьпячага атамана.

Забойцы пакульшто яшчэ не знайшлі, а можа і зусім ня знойдуць нашыя здольныя сьледчыя ўлады.

Гэта ўжо ня першае забойства выдатных антыбальшавіцкіх дзеячоў у самай глыбіне Польшчы і ўсе гэтыя забойствы аказаліся не выкрытымі, а забойцы ўцяклі ад кары.

Гэтак, два гады назад быў забіты ў лесе гэн. Балаховіч, брат вядомага гэнэрала-партызана. Гэткім-жа агідным падступным спосабам ледзь ня быў забіты вядомы палкоўнік Перамыкін. Ен атрымаў 6 ранаў і забойца кінуў яго ў полі ў сьнягу, пэўны што кідае труп. Толькі прыпадак і шчасьце ўратавалі Перамыкіна.

Трох б. афіцэраў жыўцом схапілі і вывязьлі ў Бальшэвію на страшэнныя мукі і зьдзекі чэкістаў. Усе яны былі *актыўнымі антыбальшавікамі* і прыяцелямі Польшчы, а адзін з іх—Калечыц нават быў кандыдатам на пасла па польска-беларускаму сьпіску № 22.

І ані воднага з гэтых праступленьняў нашыя сьледчыя ўлады, якія гэтак „лоўка“ ловяць палітычных праступнікаў, — ня выкрылі. А сьлед ясна паказываў дарогу на... Маскву, альбо на бальшавіцкае прадстаўніцтва ў Варшаве. Калі-ж прыпомнім нядаўняе забойства Пятлюры і зусім нядаўнюю ахвяру—атамана Оскілку, дык постаць злодзея, які з-за вугла б'е сваіх сьмяротных ворагаў, робіцца зусім яснай.

А калі прыняць пад увагу апошнюю пастанову Комінтэрна аб правядзеньні „індывідуальнага тэррора“, дык ня можа быць і цені сумліва, што і Оскілку забіла ўсё тая-ж чырвоная рука 3-га Інтэрнацыянала.

Для нас гібель Уладзіміра Оскілкі тым больш балючая, што ён ня толькі быў блізкім да нас па сваёй непрымірымасьці да комуністаў і па адкрытай і актыўнай барацьбе з імі, але мы яшчэ страцілі ў ім чэснага і шчырага саюзьніка нашага, які ў сакавіку 1925 годзе падпісаў саюзны дагавор паміж Украінскай Народнай Партыяй і Часовай Беларускай Радай.

Змагаючыся за ўкраінскую нацыянальную незалежніцкую ідэю Ен згінуў як баец ад подлага забойцы.

Мы ня можам паверыць, што гэтае забойства пройдзе дарма! Мы пэўны, што на агідны тэррор комуністаў нашыя браты—украінцы адкажуць гэткім-жа тэррорам. А ў той вялікі мамэнт, калі нарэшце лопне ўлада 3-га інтэрнацыянала, тагды дорага заплацяць сваёй крывёю комуністы за забойства ідэйных украінскіх дзеячоў.

Ад імя Часовай Беларускай Рады, Т-ва „Прасьветы“ і рэдакцыі „Беларускага Слова“ на імя рэдакцыі „Дзвіна“, рэдактарам якой быў забіты У. Оскілко, паслана наступная тэлеграма:

„Час. Белар. Рада, Т-ва „Прасьвета“ і рэдакцыя газэты „Белар. Слова“ пасылае пакрэўнай і саюзнай арганізацыі—Украінскай Народнай Партыі сваё гарачае спачуцьцё з прычыны забойства вялікага патрыёты і народнага ўкраінскага дзеяча сьв. п. Оскілко і выражае сваё абурэньне проці агіднага забойства ў прakананьні, што забойства гэтае не застанецца бескарным.

Апрача гэтага, па ініцыятыве Час. Бел. Рады, 25 чэрвеня ў Рамамаўскай царкве была адслужана па У. Оскілцы паніхіда.

---

**Вяч. Шышкоў.**

# Парада.

(*Апавяданьне са зборніку выданага ў Маскве*).

(*Глядзі № 18.*)

А ўвечары яго начыста абгаліў Янка — салдат.

Гараська балушчыў на бацьку вочы і рагатаў. Потым пачаў старанна зьмятаць венікам бацькавыя касьмыкі і барадзішчу—паўная кашолка, бы стог. Гараська зьдзівіўся.

Сілант голы, быццам абшчыпаны індык, частаваўся у куту з Янкай самагонкай. На стале ляжала люстэрка. Выпье і пагледзіць:

— Ха-ха-ха! Які вялікі анцірэс у твары! Янка! Таварыш!

Гараська пырскаў са сьмеху. Баба плакала.

* * *

Раніцай у дзень парады, Сілант прачхнуўся рана. Ягонай галаве была сьцюдзена. Ен правёў далоняй па голаму чэрапу, па твары і ў душы яму стала нек тошна.

— Дай мнэ люстэрка, асіплым голасам прамямліў ён бабе, якая паліла печку.

Пагледзіў, вочы кроўю наліліся, сунуў:

— На! і доўга сьцяўшы зубы маўчаў, не хацеў падымацца.

А як ударылі на абедню—устаў.

— Паўдурак чортаў, чаму-ж ня ўстрымала?

Баба смаркалася ў падол і не хацела гаварыць.

— А каб ён, чорт, з пьяных вочаў нос бы мне уздумаў адхваціць, вушы або іншы струмэнт... Такжа-б маўчала? А?

Жонка ні слова, качаргой дровы суе.

Сілант прымерыў шапку—галава схавалася да самага роту.

— Іш што падлец нарабіў, сказаў ён — хоць ты з анучай адзявай. І памерыў шапчонку Гараські.

Малая!

Тады жонка раптам зарагатала і звонка крыкнула:

— Апрані мой павойнік!

— Павойнік?—запытаўся Сілант? А ён які? Чырвоны? А ну, пакажы.

Вылез з-за печкі дзед, паківаў галавой, сказаў:

— Лейцамі цябе, дурака, трэба. Гэткая морда нескладная. Цьфу! Малпа і ёсьць паршывая... Добра той Гараська казаў...

Прыйшоў сельсавет Аксен, шчыра перажагнаўся на абразы, прывітаўся з дзедам, гаспадыняй, зірнуў мімаходам на Сіланта, пытае:

— А што, Сілант Антонаў выйшаў?

Усе зарагаталі. І больш усіх грамыхаў Сілант.

* * *

Вясёла, залівіста цілімбомкалі званы і вялікі звон гулка бухаў. Працэсія кіравалася з царквы да школы.

Чырванела рабіна, жаўцеў зблякаваўшы на бярозі ліст, лёталі хмарамі шпакі, гарлавіў певень, паглядываючы адным вокам на сонца. А званы заліваліся і йшоў густым натоўпам народ. Бацюшка, айцец Сяргей, зіяў рыжай барадой і рызамі.

— Начальства, закрывай! Начальства! камандаваў у школе Сілант. Ці няма нейкіх трапак або ручнікоў?

— Нашто — ручнікі? Мы ёлкамі закрыем.

— Як гэта можна! Закрычаў на хлапцоў Сілант. Тутка сьвятыя абразы вісяць, Божая Маці, Мікола—угоднік, або лёгка ім, сьвяціцелям Хрыстовым бачыць гэтыя вашыя партрэты?

І ўсе партрэты былі завешаны чырвонымі анучамі.

— А ў тым пакоі не закрылі старыка, Карлу свайго?

— Айда, хутчэй! А то бацюшка з крыжам ідзе...

А потым да сына:

— Эй, Гараська, сказаў ласкава—бягі сучы сын хутчэй на званіцу ды на дарогу пазірай. Вочаў не спушчай.

Гараська кінуўся бегчы.

— Стой сучы сын! Як убачыш—пыл узьнімаецца,—тройка ад гораду прэ—лётам сюды ляці. Зразумеў?

З вуліцы ўсё галасьней чуліся жаночыя галасы, бліжэй і бліжэй, хорам „Дастойна ёсьць“ пяюць; вось пад вокнамі затапаталі ногі—ўверх па ўсходах. На Сіланція паўзіраліся, бы на чужога, нат бацюшка дэлікатна сказаў:

— Як маецеся, таварыш камісар... Ай, ды гэтаж быццам Сілант Антыпаў! І каб усьцішыць узьняўшыся сьмех, сьпешна распачаў малебства. Народу паўнюсенька поўна. Ад пыхценьня ды ўздыхаў паветра зрабілася густым і цяжкім.

Сілант нагнуўся да лісьсяга твару Аксена:

— Ты вось што, бягі за ваколіцу, зашэпатаў ён хмурачы брыві. Яны хоць і праваслаўныя каторыя, а бога не пачытаюць. Затрымай, разумееш? Чаго—небудзь налгі ім, абы гусьцей...

Аксен, слухаючы варушыў вухам бы конь, сказаў: — угу—і выйшаў.

Бацюшка пышна служыў эктэнію, за дыякана вывадзіў басам, а свае—ціхім умільным ценарком і кадзіў безупынна. У школе — як на пажару—аж сіне. Сілант маршчыўся: гарадзкія сябры як чэрці баяцца ладану. Многалецьце; „будаўнічым ўсечэснага дому гэтага“ бацюшка гаркануў так, што закашляўся і Сіланту паказалася—быццам з горла папа люнула кроў. Але гэта ня кроў, а Хвядот махнуў чырвонай барадой, ўзмахнуў рукамі і хор мужыкоў бухнуў як з гарматы. І толькі што ўзьдзеў бацюшка на нос свае акуляры, каб на паперцы прачытаць „слова“:

— Едуць, едуць! быццам пугай па галавам хваціў уляцеўшы Гараська.

Тагды ўсе заварушыліся; бацюшка на-сьпех пачаў тыкаць крыжом у зубы, насы і лбы, а напіраўшых старушак дык прост ткаў у загорбак, мармочачы:

